

# Як вітаюцца ў розных краінах

Калі мы сустрэнем знаёмага, дык вітаемся з ім. Мы маем свае спосабы вітацца. Але цікава, што ня ўсюды гэтак вітаюцца, як у нас. Другія народы вітаюцца па-свойму.

Людзі, якія жывуць у Эўропе, вітаюцца так: падаюць адзін другому і паціскаюць рукі, зьнімаюць шапкі, ківаюць адзін другому галовамі, іншы раз цалуюцца.



Навука выясьніла, адкуль паходзяць такія спосабы вітаньня. Некаторыя спосабы разьвіліся вельмі даўно, калі чалавек яшчэ ня меў навукі, верыў розным багом.

Калі людзі вітаюцца за рукі, дык, па думках даўнейшых людзей, яны гэтым як-бы гаворацъ адзін другому: „Я падаю табе голую руку і думаю, што і ў цябе няма зброі“.

А калі людзі паціскаюць адзін другому рукі, дык гэта мела некалі такое значэньне: багамольныя людзі хадзілі за тысячы вёрст кланяцца розным „сьвятым“. „Сьвятых“ у той час было колькі хочаш. Папы, калі хацелі больш зарабіць ад цёмных, рэлігійных людзей, дык выдумлівалі „сьвятых“. Звычайна такога „сьвятога“ ляпілі з гіпсу ці гліны. І вось абвяшчалі людзям, што ў іх ёсьць самы сапраўдны сьвяты, ідзеце яму кланяцца.



Дык вось людзі, якія дакраналіся да гэтага „сьвятога“, верылі, што, калі яны пададуць сваю руку родным і знаёмым, дык і тыя набяруцца „сьвятой“ сілы. Цяпер з гэтага пасьмяецца кожны акцябронак.



Народы, якія жывуць на Ўсходзе, ня маюць звычаю вітацца за руку. Яны вітаюцца так: складваюць рукі на грудзёх і вітаюць пэўнымі словамі, як у нас, напрыклад: „добры дзень“. Калі кітаец хоча выказаць каму сваю пашану, дык ён апускае рукі. Гэты спосаб прывітаньня таксама гаворыць аб тым, што ў яго няма ніякіх кепскіх думак: у руках

**(Працяг чытай на 3-яй стар. вокладкі).**

**ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“**

**Рэдкалегія: ГАРБУЗ П. (адк. рэдактар), РАЦЭВІЧ В., ЯКІМОВІЧ А. (адк. сэкратар).**

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 1-ы

Умовы падпіскі:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 м-цы | 45 к. |
| На 6 м-цаў | 90 к. |
| На 1 год | 1 р. 80 к. |

№ 2 Лістапад 1929 г.

Адрас Рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25





ПРЫВІТАЕМ ЗІМУ
ЛЫЖАМІ,
КАНЬКАМІ,
САНКАМІ!

*

ЗІМА—НАШ ПРЫЯЦЕЛЬ. УВЕСЬ ВОЛЬНЫ ЧАС ПРАВОДЗЬ НА СЬВЕЖЫМ МАРОЗНЫМ ПАВЕТРЫ.

*

ХТО ЧАСЬЦЕЙ ХАВАЕЦЦА АД ЗІМЫ НА ПЕЧ, ТОЙ ЧАСЬЦЕЙ І ХВАРЭЭ.




# Бабка і ўнучак

·Апавяданьне А. ЦІТАВАЙ

БЫЛА бабка і быў у яе ўнучак Юзік. Ішла раз бабка з Юзікам з аднае вёскі ў другую. Ісьці было недалёка. Вышлі яны з вёскі пад вечар. Сонейка ўжо было на захадзе. Бабка—старэнькая. Ісьці, вядома, борзда ня можа. А ўнучку хоць і 7 гадкоў і пабег-бы ён хутчэй, чым бабка, ды ня хоча яе адну пакідаць: мала што са старэнькай у дарозе здарыцца можа. А так усё-такі ён ёй памоцнік. Ідуць яны, ідуць. Вось і зусім сонейка закацілася, а ім яшчэ ганок з пяцёра прайсьці засталося да сваёй вёскі.

— Каб хаця могілкі крыху завідна перайсьці,—кажа бабка,— а то, чаго добрага, у пацёмку каля могілак прыдзецца ісьці. Страх, ня люблю гэтага.

— Чаму ня любіш?—пытаецца Юзік.—Ці ня ўсё адно: каля могілак ці так дзе. У пацёмку ўсюды дрэнна ісьці, бо дарогі добра ня відаць.

— Не, ня ўсё адно, унучак,—адказала бабка.

Ідуць далей. Вось і зусім сьцямнелася. Падышлі да могілак. Бабка перахрысьцілася. Унучак паглядзеў на бабку і падумаў: „пужаецца мая бабка, перахрысьцілася—думае, што гэта дасьць ёй сьмеласьці“. Але нічога не сказаў унучак бабцы. Раптам бабка схапіла ўнучка за руку, прыцягнула да сябе, дрыжыць уся, хрысьціцца і нешта мармыча.

— Чаго ты, бабка, спужалася?—пытаецца Юзік.

— Ціха, унучак, ціха!—бачыш на могілках нешта сьветлае? Ці не сьмяротнік з ямы вылазіць?—мармыча бабка.

Дрыжыць бабка, хрысьціцца, плюе.

— Дзе, бабка, сьмяротнік? Хіба-ж сьмяротнікі з магілак могуць вылезьці? Вось што надумалася,—кажа Юзік,— я ані не баюся, бо гэта глупства, а лепш пабягу паглядзець, што гэта там сьветлае. Пастой тут, бабка, хлілінку. І, не даючы бабцы апамятацца, Юзік пабег у той бок, куды паказвала бабка. Праз хвілінку ён крычаў:

— Бабка, бабка, гэта пень гнілы сьвеціцца, хадзі паглядзі. А калі баішся ісьці сюды, дык я табе кавалачак ад яго прынясу.

Юзік прыбег да бабкі з кавалачкам гнілога асінавага пня, які ў пацёмку сьвяціўся агеньчыкам.

— Бачыш, бабка, гэта будзе наша электрычная лямпачка. З ёю і табе весялей будзе ісьці, ато ты, відаць, у пацёмку вельмі пужаешся,—кажа Юзік.

А бабка плюе і зьдзіўлена глядзіць на Юзіка.

— Ну, і адважны-ж ты унучак. Я, старая, зусім спужалася, а ён глядзець пабег. Мяне і цяпер яшчэ дрыжыкі не пакідаюць.

— Эх, ты, бабка, бабка! — кажа Юзік, — ты ўжо старэнькая і ведаеш толькі, што хрысьціцца, а мы, акцябраты, ведаем, што сьмяротнікі з магілак ніколі не ўстаюць, бо яны згнілі там. І яшчэ ведаем, што ні бога, ні нячысьціка ніякага нідзе няма. Вось што, бабка. Лепш ты слухай нас, дык ніколі пужацца ня будзеш.

**ДЗЕЦІ! пішэце ў рэдакцыю аб тым, як падабаюцца вам творы, што друкуюцца ў часопісі?**

## СХІТРАВАЎ.



*На такім кані далёка не заедзеш.*



*Хіба камень выратуе...*



*Цяпер, здаецца, усё добра.*



*Але... вось што вышла.*




# Пастушок мастак

**Апавяданьне і малюнкі ВАЛО**

*З ЖЫЦЬЦЯ ДЗЯЦЕЙ У ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ*

ПАСТУШКУ Язэпку цяжка было папасьці ў школу. За права вучыцца бедныя павінны плаціць вялікія грошы. А бацька Язэпкі бедны чалавек. Ён беспрацоўны. Жыве іх сям'я на заработак Язэпкі і дзеда Стэпы, якія ўлетку пасуць чужое быдла.

Стэпа вельмі любіў плесьці кашы і лапці. Лапці ён плёў з лык, а кашы з хваёвага карэньня. Карэньне чысьценька абскрабалася і з яго пляліся такія спрытныя, беленькія кашы. Дзед прадаваў лапці і кашы і за гэта меў сякі-такі прыбытак.

Язэпка ўсяму навучыўся ад свайго дзеда.

— Дзе-ж ты, дзядуня, навучаўся так усё рабіць?—запытаўся аднойчы ўнук у дзеда.

— Далёка гэта, там цяпер не паны гаспадараць, як у нас а самі рабочыя і сяляне.

— Гэта ў Савецкай краіне, аб якой мне гаварыў тата?—перабіў Язэпка дзеда.

— Але, дзеткі. Даўно гэта было. Тады жыў я ў Карэліі. Там халадней, чым у нас тут.

— А ў Савецкай краіне, дзядуня, пастушком можна вучыцца?—пацікавіўся ўнук.

Школа ў Язэпкі ніколі з думак ня выходзіла.

— Дзіва што можна. Там-жа толькі і вучацца такія бедныя, як мы. Ого, каб гэта цябе туды—далёка ты, унучак, пашоў-бы. А тут...—дзед змоўк, бо гаварыць ня варта было ўнуку аб жыцьці ў панскай Польшчы,—ён і сам усё ведаў.

* * *

Язэпкаваму бацьку ўсё-ж неяк удалося пастуціць на работу на пільню пана Казіміра. Бацька пачаў зарабляць трохі грошай і цяпер змог аддаць сына ў школу.

Язэпку было адзінаццаць год.

Ён быў самым старэйшым у сваёй клясе.

Праз гэта вучні дражнілі яго „дзядзькам“.

Але ўсе вучні і любілі Язэпку, бо ён умеў вельмі добра маляваць. У школе нікога ня вучылі маляваць. Язэпка такую здольнасьць набыў сам праз сябе.

Каб не псаваць паперы, Язэпка маляваў мелам на дошцы. Гэтак можна лёгка і сьцерці, калі дзе што ня так выходзіць, як трэба. Малюнкі яго былі ўсе „сьмешныя“, як любіў сам пра іх гаварыць Язэпка. Намалюе ён, бывала, вучня, які ня ведае ўрока:



*За тоўстым чалавекам увайшоў знаёмы Язэпку пан Казімір.*

стаіць такі вучань, каленцы сагнуліся, рот разяўлены, спалоханы. А тут настаўніца з „лапай“—б‘е лінейкай яго... Ды ці мала было чаго маляваць.

У адзін час, калі Язэпка маляваў, настаўніца сказала вучням, што прыехаў інспэктар і будзе аглядаць школу. Усім трэба борзьдзенька сабрацца для спатканьня. Інспэктар на ўсіх вучняў і настаўнікаў кожны раз наводзіў страх. Вучні дрыжалі ад аднаго толькі погляду вышэйшага школьнага начальства—інспэктара.

Усе выбеглі з клясы спатыкаць інспэктара. Адзін Язэпка застаўся ля дошкі і канчаў новы „сьмешны малюнак“.

І толькі, калі ўсе вучні ўвайшлі ў клясу і паселі, ён адарваўся ад дошкі і пашоў на сваё месца.

Дзьверы адчыніліся і паказаўся тоўсты, сыты, як адкормлены парсюк, чалавек.

За тоўстым чалавекам увайшоў знаёмы Язэпку пан Казімір. Язэпка борзьдзенька адвёў вочы ад пана на дошку. Потым з дошкі на пана. „Як раз ён“, — падумаў Язэпка. На дошцы быў намаляваны гэты пан; ён бізуном б‘е жанчыну-работніцу. Язэпка ня раз бачыў такія малюнкі ў жыцьці. Зразумела, Язэпка ня ведаў, што разам з інспэктарам прыдзе і пан Казімір.

Але раптам усё перамянілася. Казімір убачыў сябе на дошцы.

— Хто гэта зрабіў?—закрычаў ён на настаўніцу.

Язэпка ня стрываў, каб ня прызнацца, бо ўсе ведалі, што толькі ён умее маляваць.

На заўтра Язэпку выгналі з школы. Бацьку пан Казімір таксама выгнаў з сваёй пільні.

Так распраўляюцца паны з беднатою ў Заходняй Беларусі.



## АКЦЯБРАТКІ МАЕ КАХАНЫЯ!



Дзякуем вам, нашым далёкім маленькім таварышом за пацяшэньне, за думкі пра нас*).

Ліст ваш мы чыталі ўсе разам, у час турэмнай пагулянкі. Вы, мабыць, і ня ведаеце, якую вялікую радасьць прынёс ваш ліст нам у турму. Радасна мне ведаць, што вы-б хацелі, каб я была разам з вамі, але шкадаваць мяне не трэба. О, не, зусім ня трэба, бо я сама з тысячамі іншых таварышоў гордая і шчасьлівая тым, што я—політычная турэмніца.

Калі барацьба наша вымагае сядзеньня ў турме, мы праседжваем доўгія гады бяз страху і стогну, моцныя той сьвядомасьцю, што справа наша бяз нас жыве і расьце. Папрасеце, акцябраткі, комсамольцаў, каб яны вам гэта лепей растлумачылі.

Пішэце, мілыя, колькі вас усіх ёсьць. Што вы робіце, ці ўмееце вы чытаць і пісаць, ці ведаеце штонебудзь аб іншай Беларусі — не Савецкай? Вельмі мяне цікавіць вашае жыцьцё. А я вам буду пісаць, як жывуць у турме.

Ну, усяго вам добрага, мае дарагія, расьцеце-ж вольныя і шчасьлівыя! Беце так моцна ў барабан, сьпявайце так весела і галасна вашыя песьні, каб чутно было ня толькі ў нашай турме, але і ва ўсіх іншых.

Ваша *Вера*.

*) Акцябраты пры Комс. ячэйцы Дзярж. Выдавецтва паслалі ліст комсамолцы Веры, якую польская буржуазея трымае ў турме. Вера прыслала акцябратам адказ на іх ліст.



# Сенажаці і полі асьнежаны

**Верш М. ЧАРОТА**

*Сенажаці і полі асьнежаны,*
*Рэкі высланы гладкім памостам.*
*Воўк з гушчару дарогай няежджанай*
*Бяжыць к вёсцы няпрошаным госьцем.*

*Лес у сьветлым адзеньні, а хмурыцца,*
*Ня вітае ён песьнямі раньня...*
*А ў вёсках завеены вуліцы,*
*Ў мяккіх гурбах купаюцца сані.*

*Сівалапы гуляе пад вокнамі,*
*Пазірае хаціне у вочы.—*
*Толькі ўпоўдзень, часамі, замоўкне ён,*
*А як вечар—у шыбы стукоча.*

*Дзеці пальцамі шыбы з узорамі*
*Размалёўваюць, тулячы плечы.*
*Згорнуць ў жменю сьняжыначкі-зоры*
*І бягуць пасмактаць у запеччы.*

*Ноччу печ засьпявае ім комінам,*
*Сон салодкі ў пасьцелі ім сьніцца,*
*Што ў садку яны з крыкам і гоманам*
*На сіле ловяць гуртам сініцу.*

# ПАЖАР

**Апавяданьне**
**Л. Н. ТАЛСТОГА**

У жніво мужчыны і бабы пашлі ў поле на работу. У вёсцы асталіся толькі старыя ды малыя.

У аднэй хаце асталася бабка і трое ўнучкаў. Бабка выпаліла ў печы ды лягла адпачываць. На яе садзіліся мухі і кусалі яе. Бабка накрыла галаву ручнікам і заснула.

Адна дзяўчынка, Марылька (ёй было тры гады), адчыніла печ, нагрэбла вугольляў у чарапок і пашла ў сенцы. А ў сенцах ляжалі снапы. Бабы прыгатавалі гэтыя снапы для перавяслаў.



Марылька прынесла вугольле, палажыла пад снапы і пачала дзьмухаць. Калі салома пачала загарацца, яна зарадавалася, пашла ў хату і прывяла за ручку брата, Міколку (яму было паўтара гады, ён толькі што навучыўся хадзіць), і сказала:

— Глядзі, Міклік, як гарыць печка. Гэта-ж я сама распаліла.

Снапы ўжо гарэлі і трашчалі. Калі набралася поўныя сенцы дыму, Марылька напалохалася і пабегла назад у хату. Міколка пакаціўся на парозе, разьбіў нос і заплакаў. Марылька ўцягнула яго ў хату і яны абое схаваліся пад лаўку.

Бабка нічога ня чула і спала. Старэйшы хлопчык, Янка (яму было восем гадоў), быў на вуліцы. Калі ён убачыў, што з сянец



прэцца дым, ён ускочыў у сенцы, цераз дым убег у хату, і пачаў будзіць бабку. Але бабка спрасонку ашаламацілася і забылася пра дзяцей, выскачыла і пабегла склікаць людзей.

Марылька гэтым часам сядзела пад лаўкаю і маўчала: толькі маленькі хлопчык крычаў, бо вельмі-ж балеў яму разьбіты нос.

Янка пачуў яго крык, паглядзеў пад лаўку і закрычаў на Марыльку: „Бяжы, а то згарыш!“

Марылька пабегла ў сенцы, але дым і агонь ня даў ёй прайсьці. Яна вярнулася назад. Тады Янка адчыніў вакно і загадаў ёй лезьці. Калі яна вылезла, Янка схапіў брата і пацягнуў яго. Але Міколка быў цяжкі і не даваўся брату ў рукі. Ён плакаў і трапятаўся. Янка два разы пакаціўся, пакуль дацягнуў яго да вакна; дзьверы ў хаце ўжо загарэліся. Янка прасунуў братаву галоўку ў вакно і хацеў пахпнуць яго, а хлопчык (ён вельмі напалохаўся) ухапіўся ручкамі за раму і не даваўся.

Тады Янка закрычаў Марыльцы:

— Цягні яго за галаву!

А сам пхаў ззаду. І гэтак яны выцягнулі яго праз вакно на вуліцу і самі выскачылі.




Раніцай у дзіцячы сад.

# У ДЗІЦЯЧЫМ САДЗЕ

*Нарыс Н. АКЦЯБРСКАГА*

*Фотографіі СЕМЯНЯКІ*

— Гу-гу-гу-у-у-у!—моцна раздаецца гудок па ўсім горадзе.

Гэта гудок кліча раніцай бацьку і матку на работу. Яны толькі што скончылі піць гарбату. Але ім трэба яшчэ завесьці ў дзіцячы сад маленькага Янку—трохгадовага хлопчыка. Зьбіраюцца з хаты ўсёю сям'ёю. Бацькі—на завод, а маленькі Янка—у сад.

У садзе весела. Там многа дзяцей. Усе яны такія-ж малыя, як наш Янка. Дзеці сабраліся ў сад для таго, каб весела і карысна правесьці тую частку дня, калі іх бацькі працуюць на заводах. Дома дзяцей няма каму даглядаць, а тут зусім ня тое. Тут даглядаюць за імі настаўніцы (выхавальніцы).

У садзе шмат працы. Не пасьпеў яшчэ адну работу зрабіць, як ужо кліча другая.

Толькі што Янка знайшоў сваю шафу, распрануўся, толькі што памыўся, як ужо трэба ісьці піць гарбату. Толькі ён пад'еў, як ужо выхавальніца кліча ўсіх дзяцей на пагулянку ў горад.

У садзе тры групы: малодшая, сярэдняя і старэйшая. Гэта і добра. Ня будзе-ж старэйшы Янка забаўляцца з маленькаю Нінкай, якая яшчэ толькі пясок пальцамі перасыпае.


Перад ядою мыюць рукі.



*Усе дружна ачышчаюць свае міскі.*

Янка на пагулянцы назьбіраў гальля і цяпер будуе вялікую будку.

І ўсе дзеці пасьля пагулянкі заняліся новай работаю: лепяць з гліны розныя фігуркі, будуюць з кубікаў хаткі.

Малодшым гэта ня цікава, яны бегаюць з мячыкам, гуляюць у свае гульні. Але ўсім вельмі і вельмі весела.

Абед. А пасьля абеду ўжо нічога рабіць ня хочацца, усе змарыліся, хочацца адпачыць. А тут якраз выхавальніца ўсіх кліча ў спальню. З якою ахвотаю Янка лажыцца спаць на паўтары гадзіны. Больш не дазваляецца спаць, бо скора і вячэра пасьпее. Павячэралі дзеці і чуюць:

— Гу-гу-гу-у-у-у!..

Гэта той-жа фабрычны гудок абвяшчае, што работа ў бацькоў скончана.

Апранаюцца дзеці неахвотна. Ці-ж хочацца дахаты, калі ў садзе ім так весела?!



# ТРАМВАЙ

**Нарыс А. ЯКІМОВІЧА**

МАЛОМУ Юзіку вельмі хацелася праехаць на трамваі. Як толькі пусьцілі ў Менску трамвай, Юзіка ў хату было не даклікацца. Разам з гуртам дзяцей ён стаяў на рагу вуліц і любаваўся, як з шумам і візгам імчацца вагоны трамвая.

Такія ўсе чысьценькія, прыгожанькія, пафарбаваныя ў чырвоны колер. Але ня менш цікавіла Юзіка і тое, як гэта можа сам праз сябе так борзда бегаць трамвай? Адкуль бярэцца сіла, што гоніць па рэйках гэтыя прыгожыя вагончыкі?



*Перад пускам менскага трамвая адбыўся вялікі мітынг.*

Надоечы Юзікаў бацька парашыў парадаваць сына. Прышоўшы з працы, ён сказаў Юзіку:

— Зараз мы з табою паедзем на трамваі.

Для малога Юзіка гэта была самая вялікая радасьць. Ён борзьдзенька апрануўся, сабраўся і з нецярплівасьцю чакаў, пакуль бацька спаважна абедаў. Ён нават злаваўся ў гэты час, сердаваў на бацьку, што той гэтак не сьпяшаецца.

А калі, нарэшце, яны падышлі да трамвая, Юзік першым ускочыў у вагон. За ім увайшоў бацька. Чалавек, які прадае праязныя білеты, шмаргануў за вяроўку. Сьпераду пачуўся званок. Чалавек, які сядзеў у пярэднім канцы трамвая, націснуў на нейкую ручку, і трамвай пабег па рэйках.

Юзік сядзеў ля бацькі і ад бурнай радасьці толькі важна пасьміхаўся. Потым запытаўся ў бацькі:

— А ты ня ведаеш, тата, чаму бяжыць трамвай?

— Чаму мне ня ведаць. Гэта вельмі проста ўсё робіцца.

— Як проста, раскажы мне, тата,—дапытваецца хлопчык.

Юзікаў бацька манцёр, ён ведае ўсё пра трамвай.



*Старшыня Гарсавету, т. Аксючыц, адкрывае дарогу трамваю—разразае істужку, што загароджвала шлях.*

— Трамвай,—кажа ён,—мае машыну, якая прыводзіць у рух калёсы. Гэтак яно і ў цягніку робіцца, і на аўтобусах. Але тут маленькая розьніца. Машыны цягнікоў працуюць параю, а трамвайная машына працуе электрычнаю сілаю.

— Адкуль-жа бярэцца ў трамваі электрычная сіла?—перапыняе бацьку Юзік.

— А вось як. Зьверху над вагонам, калі ты бачыў, працягнуты праз усю вуліцу тоўсты дрот. Гэты дрот злучаецца з фабрыкай, дзе выробляецца электрычнасьць. Дык вось, электрычнасьць з фабрыкі па дроце перадаецца ў трамвайную машыну. Ад гэтага трамвайная машына пачынае працаваць і круціць калёсы трамвая. Уверсе вагона, сьпераду, ёсьць такая драцяная пятля, якая злучае трамвайную машыну з тым дротам, што працягнуты ўздоўж вуліцы. Калі трэба трамвай спыніць, варта толькі перарваць прыцёк электрычнай сілы. Трамвай тады стане. Каб было ясьней, прывяду табе такі прыклад: каб патушыць электрычнае сьвятло ў хаце, трэба пакруціць за ручку. Электрычнасьць тады перадавацца ў лямпачку ня будзе і сьвятло патухне. Варта толькі адкруціць ручку, як электрычнасьць зноў пабяжыць у лямпачку і сьвятло загарыцца. Так яно і з трамваем.



*Трамвай на вуліцы.*

— Цікава,—кажа Юзік,—але я ня ведаю, адкуль бярэцца электрычнасьць і што гэта такое?

— Гэта яшчэ цікавей,—кажа бацька. Мы калі-небудзь пойдзем з табою на тую фабрыку, дзе выробляецца электрычнасьць. Фабрыка гэта завецца электрастанцыяй. А цяпер скажу толькі вось што: ты памятаеш, як улетку была вялікая навальніца?

— Чаму-ж не, я тады вельмі баяўся.

— Тады моцна грымеў гром і зіхацела бліскавіца. Вось тая бліскавіца і ёсьць электрычнасьць. Электрычнасьць мае вельмі вялікую сілу. Бывае, што каменьні, дубы ломяцца і крышацца ад бліскавіцы.

Людзі прыдумалі такую машыну, што выробляе многа электрычнасьці, а гэтую электрычнасьць людзі навучыліся скарыстоўваць для рознай работы і службы: электрычнасьць возіць людзей на трамваі, электрычнасьць прыводзіць у рух машыны, электрычнасьць асьвятляе нашы вуліцы, дамы.

— Хітрая штука гэта электрычнасьць,—кажа Юзік,—я абавязкова пайду з табою на электрастанцыю і там добра разьбяруся, што гэта такое.

# НОВАЕ ЖЫЦЬЦЕ

*Нарыс пра комуну*) „Бальшавік“.*

## ЯК СТВАРЫЛІ КОЛГАС

НЕДАЛЁКА ад Менску, каля вёскі Караліштавіч, на высокім беразе Сьвіслачы красуюцца будынкі комуны „Бальшавік“. Да рэволюцыі на гэтым месцы быў маёнтак пана Прушынскага.

Прышоў Кастрычнік. Пана выгналі, а на месцы маёнтку стварыўся савгас (савецкая гаспадарка).

У 1924 годзе 8 сем'яў з былых парабкоў заснавалі тут колектыўную гаспадарку. Гэтая гаспадарка да апошняга году была сельска-гаспадарчай арцельлю (ніжэйшы від колектыўнай гаспадаркі, глядзі тлумачэньне ўнізе).

Амаль з нічога колгасьнікі пачалі будаваць гаспадарку. Яны мелі толькі 1 каня і 7 кароў. Добра, што ад старога савгасу засталося 50 дзесяцін засеянага жыта.

Жыва і ахвотна працавалі колгасьнікі.



*На фотографіях:*

*1. Раніцай дзяжурны звоніць абрэйку—склікае на збор.*
*2. На зборы загадчык комуны абвяшчае, што каму рабіць.*
*3. Комунары пачынаюць працоўны дзень: адзін паехаў поле араць трактарам.*

*) Комуна—гэта апошні, самы вышэйшы від колектыўнай гаспадаркі, дзе ўсё агульнае, члены комуны ня маюць ніякае ўласнасьці,—разам жывуць, працуюць, харчуюцца.

# НА НОВАЙ ЗЯМЛІ

Сабралі добры ўраджай. Рады былі.

— Падрасьцем—выпрастаемся!—казалі колгасьнікі.

Але ня так лёгка выпрастацца. Ксяндзоўская і кулацкая злосьць і зайздрасьць не прайшлі дарма. Увосень ксяндзы і кулакі падпалілі гумно з усім ураджаем і прыладамі.

Колгасьнікі ўсё-ж не адракліся ад працы, не засумавалі.

— Папрацуем! Набудзем! І як, на злосьць ворагам, колгас рос і мацнеў. Цяпер у колгасе ўжо 20 сем'яў (85 душ). Колгас служыць прыкладам для вакольных сялян.

## КОЖНАМУ ЁСЬЦЬ РАБОТА

9 гадзін раніцы. На дварэ чуваць званок. Усе выходзяць з хат.

— Ну, якая сёньня работа, Валодзя?

*4. Другія будуць картофлю выворваць і звозіць з поля.*

*5. Жанчыны і старыя дзядзькі ідуць на сваю работу: выбіраюць з парнікоў памідоры.*

*6. Увечары ўсе ідуць у свой клюб, дзе знаходзяць разумны і карысны адпачынак.*







— А от зараз скажу, чакайце.

Комсамолец Валодзя, малады хлапец, загадчык гаспадаркі. Ён дае нарады на работу: аднаму поле араць, другому малаціць, трэцяму картофлю выбіраць. Кожнаму ёсьць работа.

Улетку колгасьнікі працуюць 8—10 гадзін, зімою—6—7. За сваю працу кожны мае добрую яду і чыстую вопратку.

Кіруе колгасам Савет з 5 чалавек. Старшыня Савету—добры кіраўнік і гаспадар, карыстаецца павагай з боку колгасьнікаў.

Колгасьнікі працуюць добра, шчыра.

## ЗБАЖЫНА Ў КОЛГАСЕ ЛЕПШАЯ, ЧЫМ У СЯЛЯН

У колгасе пачалі разводзіць шмат жывёлы. Гэта выгадна, бо штодня можна збываць у Менск малако і мяса. Поле ўрабляецца новымі спосабамі. Замест коняй і людзей працуе трактар. Ня дзіва, што ўсё ў колгасе расьце лепш, чым на сялянскім полі.

Так, ураджай жыта з 45 пудоў на дзесяціну ў 1924 г. даведзены да 83 пудоў у 1928 г., ураджай бульбы з 700 пудоў павялічыўся да 1.200 пудоў і г. д.

Есьць у іх 55 штук рагатай жывёлы добрай пароды. Карова ў сярэднім дае 98 пудоў малака за год. Коняй—19, сьвіней—48 штук.

## „ЦЯПЕР ЛЕПШ ЖЫВЕЦЦА“

Дзядзька Сьцяпан даглядае за садам. Дзядзьку Сьцяпану пад шосты дзесятак год. Ён некалі служыў у пана. Ведае, якое дабро было, і з гонарам кажа:

— А ўсё-такі, як не кажы, на многа цяпер лепш жывецца. Гэта-ж, бывала, дык мы валамі былі, сьвету ніколі ня бачылі, а гэта я сабе папрацаваў ды от і газэтку пачытаю.

І не адзін дзядзька Сьцяпан чытае газэты. Цяпер усе ў колгасе граматныя і ўсе могуць самі чытаць.

Колгас мае свой клюб. Тут адпачываюць, чытаюць газэты, слухаюць радыё, тут адбываюцца сходы.

## НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ ПЕРАРАДЖАЕ І ЛЮДЗЕЙ

Калі раней падзяляліся на каталікоў, праваслаўных і маліліся кожны па-сваему, дык зараз той самы Сьцяпан пакеплівае з жонкі:

— Мая ўсяночная лепшая. Я сабе адпачыў, выспаўся, а што за карысьць, што ты карчанела ноч... Усё гэта мана,—кажа ён.

І гэткім стаў ня толькі Сьцяпан. Нават 79-гадовы Адам забыўся ўжо, калі быў у споведзі. Ён толькі летась пакінуў працу. Гэта герой працы. Колектывісты навучыліся чыста, акуратна жыць, не хадзіць у брудным адзеньні.

Сёлета з арцелі „Бальшавік“ стварылася комуна.



На здымку—трактарам малоцяць. Замест коняй працуе трактар.

# МАЛАЦЬБА

*Чорнай пражай снуе*
*Над будынкамі ноч,*
*А ў ваконцы агні*
*Пазіраюць даўно.*

*Ужо ўстаў колектыў,*
*Ўсе цяпер на таку.*
*Гуд машыны ляціць*
*Праз гумно на раку.*

*Праца дружна ідзе:*
*Сталь зьвініць, шум наўкол,*
*Малатарня гудзіць,—*
*Аж дрыжыць пад ёй дол.*

*І хапае-ірве*
*Малатарня снапы,*
*Земляроб падае*
*Іх з высокай тарпы.*

*Зьзяе ўцехай-зарой*
*Земляроб малады,*
*А зярняты бягуць*
*Ручайком залатым.*

*Коні дружна ідуць*
*Па мураўцы гумна:*
*Сьледам—жвавы хлапец,—*
*Малады паганяч.*

*Дружна йдзе—ў грамадзе—*
*Малацьба на таку.*
*Гуд машыны ляціць*
*Праз гумно на раку.*

Я. ІВАШЫН.



# У ЗЬВЯРЫНЦЫ

**Нарыс Н. ІВАНЧЭНКІ**

Аднаго разу настаўніца Вера павяла вучняў свае групы ў зьвярынец. У горадзе, дзе яна вучыла, быў зьвярынец. Гэта было ў пачатку восені. На дварэ стаяла яшчэ цёплая пагода. Калі экскурсія прышла ў сад, дзе зьмяшчаўся зьвярынец, усе адразу ўбачылі многа клетак. У клетках сядзелі зьвяры. Некаторыя зьвяры моцна рыкалі. Дзеці адразу напалохаліся. Але настаўніца супакоіла іх: „Зьвяры на замкох,—сказала настаўніца,—яны з клетак ня вырвуцца“. Пасьля гэтага ўсе спакойна пачалі разглядаць зьвяроў.



## ВУЧОНАЯ МАЛПА

У першай клетцы, якая трапілася па дарозе, сядзелі малпы. Расказваць нам пра малпаў пачаў служачы зьвярынца. Цікава, што ён сам хадзіў увесь час з маленькаю малпаю. Уся малпачка пакрыта шэрсьцю, а мыска не. У малпы чатыры рукі. Пальцы такія, як і ў чалавека. Адзін хлопчык выставіў ёй руку з гарэхамі. Малпа ўзяла гарэхі. Раскусіла гарэх, лушпінку выплюнула, а мякіш зьела. Потым зьела другі, трэці... Дзеці дзівяцца. А чалавек той і кажа: „Гэта ў мяне вучоная малпа. Яна за мною ўсюды ходзіць. Яна нават абедае разам са мною. Стаўлю для яе высокую табурэтку ля стала, завязваю ёй рушнік на шыю, каб яна не апэцкалася, і даю лыжку. Малпа вельмі спрытна бярэ лыжку і есьць суп. Яна ніколі не разьлівае супу. Адно толькі дрэнна, што яна вельмі сьпяшаецца есьці. Усё роўна, як баіцца, каб у яе не адабралі.

Мой сын дужа любіць малпу і дае ёй нешта смачнае з свае талеркі. А яна борзда-борзда напіхае сабе рот. Шчокі ў яе разьдзіраюцца, аж сьмешна глядзець. Сын мой тады вельмі сьмяецца. А малпа злуе, сярдзіта глядзіць на яго і кідае на падлогу лыжку, відэльцы і ўсё, што пападае. Тады на яе трэба накрычаць, каб яна сунялася“.

## ВОУК



Падышлі да другой клеткі, а там сядзіць нібы сабака, толькі худы. Хвост у яго доўгі, спушчаны між ног. Рот троху разяўлены і відаць зубы—вялікія такія, белыя. Пазірае воўк сярдзіта і ўсё бегае с кутка ў куток. Мусіць хочацца яму ў лес уцячы.

Настаўніца расказала дзецям пра ваўка.

— Ваўкі жывуць усюды, але ня там, дзе людзі. Увесну і ўлетку яны жывуць па двое, а ўзімку яны цягаюцца цэлымі чародамі. Усе разам шукаюць сабе спажывы. Ядуць яны больш за ўсё хатніх жывёл: авец, цялят, коняй, кароў. Але, калі няма мяса, дык ядуць і расьліны: кукурузу, гуркі.

Ваўкі вельмі шкодзяць людзям. Асабліва сярдзітыя ваўкі зімою. Тады яны не баяцца залезьці ў хлеў і выцягнуць адтуль жывёлу. Больш за ўсё зьнішчаюць ваўкі сабак, якія бароняць чалавека.

Людзі страляюць ваўкоў. Але, калі воўка прыручыць, дык ён зусім ня страшны зьвер.

Адзін чалавек узяў сабе ваўчаня. Яно жыло ў чалавека, як сабака. Потым, калі ваўчаня вырасла, гэты чалавек аддаў яго другому. Воўк адразу не хацеў есьці, ня пускаў да сябе нікога і вельмі сумаваў. Потым прывык і пачаў жыць у новага гаспадара. Аднаго разу нейк прыяжджае стары гаспадар да таго чалавека, якому аддаў воўка. Калі ўбачыў воўк свайго старога гаспадара, дык кінуўся да яго, лізаў яму рукі. Вельмі зарадаваўся.

На ваўка вельмі падобны нашы сабакі. Ваўкі—крэўныя сваякі нашых сабак.

## ЛІСІЦА

Паглядзелі дзеці на ваўка, а тады пашлі далей. Зірнулі ў клетку, а там лісічка сядзіць. Прыгожая такая: шэрсьць на ёй пухкая, рыжая, а на жываце белая. Хвост у яе доўгі, пушністы. Мыска гостранькая, вочкі чорныя. Калі працягнуць руку да клеткі, лісіца выскаліць зубы і бурчыць.



Лісіца вельмі хітрая. Яна заўсёды крадзе курэй. Або страху прадзярэ,

або яму пад зрубам выкапае, а ўсё-ж курэй ад яе ня ўпільнуеш. Лісіца ловіць сваю спажыву ўночы. Не абмінае яна і трусоў, зайцоў, вадзяных птушак. Бывае сядзіць качка на яйцах, а лісіца падкрадзецца і задушыць яе. Лісіца ўмее вельмі ціханька падкрасьціся да свае здабычы. Бегае яна, як вецер,—гэтак скора.

Калі яна борзда бяжыць, дык хвост у яе выцягваецца назад. Вады яна не баіцца і плавае лёгка. Па дрэвах лазіць вельмі борзда і спрытна.

Лісіца гаўкае і пішчыць. Жывуць лісы па адным. Але бывае, што лісы сябруюць нават з сваімі ворагамі—сабакамі.

Лісіца вельмі любіць сваіх дзяцей. Яна асьцерагае іх, песьціць. Калі чуе бяду якую, дык пераносіць іх у другую нару. Потым, калі яны трохі падрастуць, лісіца ходзіць вучыць іх лавіць здабычу.

У лісоў многа ворагаў. Чалавек зьнішчае лісоў, бо яны шкодзяць чалавеку.

Лісіная аўчына ідзе на хутра. Апрача чалавека, у лісцоў ёсьць і другія ворагі—ваўкі, сабакі, арлы, каршуны. Арлы і каршуны ловяць ня толькі лісянят, а і вялікіх лісцоў.

Аднаго разу быў такі выпадак. У гарах перабягала лісіца. Наляцеў арол, схапіў яе і панёс угору. Але скора арол замахаў крыльлямі і ўпаў на скалу. Чалавек усё гэта бачыў. Ён прыбег на тое месца, дзе упаў арол, і ўбачыў, што арол ляжыць і паміраё. Лісіца ў паветры перакусіла яму горла, вось чаму арол і ўпаў. А лісіца ўцякла.

Вось як умее бараніцца лісіца ад ворагаў.

*(Працяг будзе).*

---

## НЯМА НІВОДНАЙ ГРУПЫ АКЦЯБРАТ

*У Дукорскім сельсавеце, Сьмілавіцкага раёну, ёсьць пяць піонэрскіх атрадаў. Але дагэтуль няма ніводнай групы акцябрат. Ці не пара ўжо аб'яднаць нашых меншых дзяцей у групы акцябрат, каб з іх выхоўваліся добрыя будучыя піонэры? Комсамольцы! вам аб гэтым трэба паклапаціцца.*

**Піонэр.**

## ВОСЬ ПРЫШЛА ЗІМА ЛІХАЯ

*Верш вучня Я. Бокуця*

**Вось прышла зіма ліхая,
Сьцеле белы сяньнічок.
Ужо рэчка няжывая,
Аддыхае пастушок.**

**Сумна штось стаяць бярозы,
Песень жніўных ня чуваць.
Скрозь сярдзітыя марозы
Па платох усё трашчаць.**

# ЯК ЛЮДЗІ ЛОВЯЦЬ ЖЫРАФАЎ

*Няма на зямлі жывёлы больш высокай за жырафу. Не здарма жырафа харчуецца маладымі лістамі з верхавін дрэў. Гэтыя жывёлы водзяцца ў далёкай ад нас цёплай старонцы—Афрыцы. Яны там жывуць у дзікім стане, як у нас ваўкі, мядзьведзі. Але жырафу можна і прывучыць жыць у няволі—на гаспадарцы. Бяда толькі, што ў няволі жырафа доўга ня жыве.*



*Людзі ловяць жырафаў для мяса. Мяса яе смачнае, а шкура ідзе на тавар.*

*Афрыканцы ловяць жырафаў на конях. Дагоніць так жывёлу, перарэжа вялізным нажом ёй жылы на задняй назе, і жырафа падае, больш бегчы ня можа. Тады паляўнічы сваім нажом ці кінжалам насьмерць заколе жырафу. Зубамі жырафа ня кусаецца, так што да параненай жывёлы лёгка падступіцца і закалоць яе.*

# НАЖЫ—НОЖНІЦЫ!

**Сёньня да нас на двор зайшоў чалавек з цікавым калаўротам на плячы.**



**— Га... стрыць на... жы. — зацягнуў ён, а потым борзда прыбавіў:**

**— Брытвы правіць.**

**— Эй, давай, ідзі сюды!—закрычаў бацька. — На, брат, нагастры ножык, ды толькі-ж добра.**

**Чалавек у фартусе, малады і вясёлы, борзда скінуў з пляча калаўрот, узяў нож і націснуў нагою на дошчачку; тая закалыхалася. вяроўка пабегла, калясо закруцілася, зашыпела.**

**Вясёлы рабочы.—Эх, эх, давай!— крыкне ён сяды-тады, і паварачвае нож то тым, то другім бокам, ажно іскры сыплюцца.**




Казка
**І. ФРАНКО**

Малюнкі
**М. ФІЛІПОВІЧА**

БЫЎ сабе дзед Дзямянка, а ў яго бабка Мар'янка, а ў бабкі дачушка Марынка, у дачушкі сабачка Хвінка, а ў сабачкі—сяброўка кошка Мушка, а ў кошкі шустрая мышка Вяртушка.

Раз вясною ўзяў дзед рыдлёўку і матычку, ускапаў градку невялічку, гноем трошкі пацярушыў, граблямі пясок паварушыў, праткнуў пальцам дзірку ды пасадзіў рэпку. Не здарма працаваў наш дзедка—узышла прыгожая рэпка. Кожны дзень хадзіў дзед у гарод, набраўшы вады повен рот, сваю рэпку паліваў, ёй расьці ахвоты прыдаваў.

Расла дзедава рэпка, расла. Спачатку такая як мышка была, потым як кулак, потым як бурак, потым як два, а нарэшце стала такая, як добрая бочка якая.

Цешыцца дзед, аж ня ведае, дзе сесьці, дзе стаць. „Час,—кажа,—нашу рэпку рваць“.

Пашоў ён у гарод—гуп, гуп. Узяў рэпку за зялёны чуб; цягне рукамі, упёрся нагамі, сапе як кавальскі мех—гэта-ж ня сьмех! Працаваў, пацеў праз цэлы дзень, а рэпка сядзіць у зямлі, як пень.

Кліча дзед бабку Мар'янку: „Хадзі, бабка, не ляжы, вырваць рэпку памажы".

Пашлі яны ў гарод—гуп, гуп. Узяў дзед рэпку за чуб, бабка дзеда за рубашку—цягнуць, аж стогнуць,—гэтак ім цяжка. Працуюць рукамі, упіраюцца нагамі—працавалі гэтак цэлы дзень, а рэпка сядзіць у зямлі, як пень.

Кліча бабка дачку Марынку: „Стой, дачка, не бяжы, рэпку вырваць памажы".

Пашлі яны ў гарод—гуп, гуп. Узяў дзед рэпку за чуб, баба дзеда за рубашку, дачка бабу за паясьніцу, сабачка дачку за спадніцу—працавалі гэтак цэлы дзень, а рэпка сядзіць у зямлі, як пень.

Кліча сабачка кошку Мушку: „Хадзі, Мушка, не ляжы, вырваць рэпку памажы".

Пашлі яны ў гарод—гуп, гуп. Узяў дзед рэпку за чуб, баба дзеда за сарочку, дачка бабку за паясьніцу, сабачка дачку за спадніцу, кошка сабачку за хвосьцік. Цягнуць і рукамі і зубамі, упіраюцца нагамі, працавалі гэтак цэлы дзень, а рэпка ў зямлі, як пень.





Кліча кошка мышку Вяртушку: „Стой, мышка, не бяжы, рэпку вырваць памажы“.

Пашлі яны ў гарод—гуп, гуп. Узяў дзед рэпку за чуб, баба дзеда за сарочку, дачка бабку за паясьніцу, сабачка дачку за спадніцу, кошка сабачку за хвосьцік, мышка кошку за лапку,—як пацягнулі, дык і пакаціліся.

Упала рэпка на дзеда Дзямянку, дзед на бабку Мар‘янку, бабка на дачку Марынку, дачка на сабачку Хвінку, сабачка на кошку Мушку, а мышка — шусь у разорку.

З украінскае мовы пераклаў А. Якімовіч.



**ДЗЕЦІ! ЧАМУ АДЗІН ДЗЕДКА НЯ МОГ ВЫРВАЦЬ РЭПКІ? ЯК ЛЯГЧЭЙ І СПАРНЕЙ ПРАЦАВАЦЬ—АДНАМУ ЦІ ГУРТАМ?**



# ЧАМУ ПТУШКІ ЛЯЦЯЦЬ У ВЫРАЙ

**Нарыс А. ПОЛЯКА**

У нашай халоднай старонцы большая частка птушак ня жыве ўвесь год. Пад восень часта прыходзіцца чуць нам іх песьні разьвітаньня.

Што за прычына прымушае птушак з году ў год прарабляць гэтае рызыкоўнае і вельмі цяжкае вандраваньне?

Такія паводзіны птушак шмат хто тлумачыць набліжэньнем халадоў.



Але ў сувязі з гэтым паўстае другое пытаньне:

— Чаму вераб'і, вароны, сарокі і зусім малюсенькія каралькі не палохаюцца нашых траскучых маразоў і заўсёды зімуюць у нас?

Ня цяжка здагадацца, што ня холад, галоўным чынам, прымушае птушак пакідаць нас, а голад: узімку няма для іх належнага корму.

Кормам жа для большасьці птушак зьяўляюцца розныя казюлькі. З набліжэньнем халадоў казюлькі паступова пачынаюць зьнікаць. Разам з гэтым і нашы госьці-птушкі трымаюць свой шлях на поўдзень, дзе яны знойдуць сабе ежу.

Вось сініца і гіль (сьнягір) прылятаюць да нас увосень.

Яны як знарок, прылятаюць на Беларусь у гэты час, каб мець магчымасьць пацешыцца яе палямі і лясамі, засыпанымі белым пушыстым сьнегам. Яны прылятаюць да нас ня з цёплага поўдня, а з халоднай поўначы.

Наша старонка для іх зьяўляецца цёплым выраем, ці лепш кажучы, багатым сьвірнам...

Прыпамятайце, чым харчуюцца знаёмыя вам птушкі.

Паназірайце, чым харчуюцца зімою: верабей, гіль, варона і сініца.

Гэтыя ўспаміны і назіраньні дапамогуць вам адказаць на наступныя пытаньні:

1. Чаму верабей, гіль, варона і сініца зімою не ляцяць ад нас?

2. Што здарылася-б з ластаўкай, шпаком, салаўём, зязюлькай, каб яны засталіся зімаваць у нас?



*В. БІЯНКІ*



# ХТО ЧЫМ СЬПЯВАЕ

Чуеш, якая музыка грыміць у лесе?

Слухаючы яе, можна падумаць, што ўсе зьвяры, птушкі і казяўкі радзіліся на сьвет сьпявакамі і музыкамі.

Можа яно так і ёсьць — музыку любяць усе і сьпяваць усім хочацца. Толькі ня ў кожнага голас ёсьць.

Вось паслухай, чым і як сьпяваюць тыя, што ня маюць голасу.

Жабы ў возеры пачалі яшчэ з вечара. Надзьмулі пухіры за вушамі, высунулі галовы з вады, раты паразяўлялі...



— Ква-а-а-а-а-а! — у адзін дух пранеслася іх песьня.

Пачуў іх бусел, які жыў у вёсцы.

Зарадаваўся!

— Цэлы хор! Будзе мне добрая закуска!

І паляцеў на возера сьнедаць.

Прыляцеў і сеў на беразе. Сеў і думае:

— Няўжо я горшы за жабу? Сьпяваюць-жа яны бяз голасу. Давай і я паспрабую.

Падняў доўгую дзюбу, застукаў, затрашчаў аднэй палавінкай дзюбы аб другую,—то цішэй, то мацней, то павальней, то часьцей, — трашчотка ды і годзе!

Гэтак разышоўся, што і пра сьнеданьне забыўся.



— Вось дык песьня! — падумаў дзяцел, пачуўшы бусла з лесу.—Інструмант такі і ў мяне ёсьць. Чым дрэва не барабан, а нос мой чым ня палачка?

Хвастом упёрся, перадам адкінуўся, размахнуўся галавою ды калі застукае дзюбаю па суку!

Ну, сапраўдны барабан!

Вылез з-пад кары жук з доўгімі вусамі.



Пакруціў, пакруціў галавою, заскрыпела яго цьвёрдая шыя,—тоненькі, тоненькі піск пачуўся.

Пішчыць вусач, а ўсё дарэмна: ніхто яго ня слухае. Шыю натрудзіў, затое сам сваёю песьняй пацешыўся.

А ўнізе з-пад дрэва вылез чмель і паляцеў сьпяваць на лужок.

Ля красак на лужку круціцца, жыкае, усё роўна, як струна гудзе.

Разбудзіла чмяліная песьня зялёных конікаў у траве.

Пачалі конікі свае скрыпачкі наладжваць. Скрыпачкі ў іх на крыльцах, а замест смычкоў — доўгія заднія лапкі, каленцамі назад. На крыльцах зазубрынкі, а на лапках—зачэпачкі.



Трэ сабе конік лапкамі па бакох і так сьпявае.

— Эх,—думае даўганосы бакас, седзячы пад купінай,—трэба і мне пасьпяваць! Але чым? Горла маё не гадзіцца для сьпеваў, нос не гадзіцца, галава не гадзіцца, шыя не гадзіцца, крыльцы не гадзяцца, лапкі не гадзяцца...

— Эх! ці-ж я горшы, палячу, не змаўчу, а чым-небудзь ды закрычу!

Выскачыў з-пад купінкі, успырхнуў, заляцеў пад самыя хмары. Хвост распусьціў, крыльцы выпрастаў, перавярнуўся носам да зямлі і памчаўся ўніз. Галавой паветра расьсякае, а ў хвасьце ў яго тонкія, вузкія пярынкі ветрам перамываюцца. І чуваць з зямлі, нібы ў гары ягнятка забляяла.



А гэта—бакас.

Адгадай, чым ён сьпявае? — Хвастом!

# ЗАГАДКІ



* * *

Маю крыльлі, а ня птушка,
З месца ані зрушу.
Цэлы дзень, бядак, кручуся—
З зямлі не сарвуся,
А хто не ўгадае—
Няхай прачытае
З правага краю.



* * *

Збоку глянеш—гэта воз,
Толькі едзе без калёс,
Борзда-борзьдзенька ляціць,
І ані не грукаціць.



Тук і тук,
Тук і тук,
Піша мною пара рук.
Без пяра ды без алоўка,
А працуе вельмі лоўка.

# ХІТРЫЯ МАЙСТРЫ

## АДГАДКІ



Вось гэта затычка падыходзіць для ўсіх трох дзірак.

### ЗАГАДКА ВЯРОЎКІНАЙ

Апусьціць звычайную вяроўку з такой вышыні нельга, бо вяроўка даўжынёю ў 7 кілёмэтраў будзе важыць ня менш 100 пудоў. Верхняя частка вяроўкі ня вытрымае такога цяжару і парвецца.

### ЗАГАДКА СЬЛЁСАРА НАПІЛКА

Калі замыкаць дзьверы, як тут паказана, дык можна папасьці ў кватэру, адамкнуўшы ўсяго толькі адзін замок.



# Як вітаюцца ў розных краінах

*(Працяг).*



няма ніякай зброі. Як вядома, даўней людзі жылі як зьвяры. Яны часта накідаліся адзін на другога бяз ніякай прычыны. Дык вось з гэтым якраз і мае сувязь адзначаны спосаб вітаньня.

Некаторыя індыйскія пляменьні вітаюцца сьлязьмі: яны плачуць, калі вітаюць свайго прыяцеля. Альбо яшчэ робяць і так: б'юць сябе па грудзёх ці па рабрынах.



Паўночныя людзі, эскімосы, калі сустракаюцца, дык прыкладваюць рукі да грудзей і кажуць: „Застанемся прыяцелямі".

Ляпляндцы пры сустрэчы труцца насамі. Людзі, якія жывуць на астравох Ціхага акіяну, пры спатканьні тыкаюць пальцамі адзін другому ў нос.

Вось як вітаюцца цяпер паміж сабою ў розных краінах.

З нямецкай мовы пераклаў **У. Лукашэвіч**.

# ЗРАБІ САМ САНКІ




*На малюнках паказаны формы санак, якія кожны можа лёгка зрабіць сам. Разьмер для верхніх санак адзначаны ў сантымэтрах. Ніжнія санкі робяцца з клёпак ад бочкі.*



## ЯК ЗЛУЧЫЦЬ ЛАНЦУГІ?

(Загадку глядзі ў № 1).



Каб злучыць усе ланцугі ў адзін, трэба раскаваць у адным ланцугу ўсе тры колцы, а потым злучыць імі ланцугі.



Друкарня БДВ. Заказ № 433. У ліку 3200 экз. Галоўлітбел № 267.

ЦАНА 18 КАП.





# ВАЖНЕЦКІ СТАЛЯР

*Жарт пра тое, як малы сталяр ножкі падкараціў, каб стул ня ківаўся.*











